

Жыве Беларусь!


# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№219 (732) 10 лістапада 1993 г. Серада. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500400 экз. Кошт у розніцу — 25 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**9 ноября в Минске начал работу семинар по распространению знаний об истории и деятельности Международного комитета Красного Креста и Международной Федерации обществ Красного Креста и Красного Полумесяца.**

❑

Согласно договоренности между командующим Черноморским флотом адмиралом Эдуардом Балтиным и премьер-министром Грузии Отаром Пацация, усиленный батальон морской пехоты Черноморского флота взял под охрану город Поти.

Вооруженные посты миротворческих сил флота в эти дни выставлены также у моста через реку Риони, в морском порту.

❑

**Российские пограничники в Таджикистане вчера передали представителям таджикских властей афганских военнослужащих, перешедших 6 ноября границу с сопредельной территории и сдавшихся в плен.**

Перебежчики объясняли свои действия желанием спасти жизнь, так как в Афганистане они подвергались нападению боевиков Исламской партии Афганистана.

❑

**Перестрелка между абхазскими и грузинскими формированиями произошла вчера ночью около железнодорожного моста через реку Ингури, разделяющей Грузию и Абхазию.**

Грузинские правительственные силы вышли к грузино-абхазской границе в минувшее воскресенье после взятия западногрузинского города Зугдиди.

❑

**Сегодня в Алматы с рабочим визитом прибывает президент Узбекистана Ислам Каримов.**

Он проведет переговоры с президентом Казахстана Нурсултаном Назарбаевым, пройдут и встречи на межправительственном уровне.

❑

**Вчера в полночь вновь был обстрелян пост российских пограничников на участке 12-й заставы Московского погранотряда на таджикско-афганской границе.**

Огонь велся из миномета с тыловых подступов к границе. Среди пограничников потерь нет.

❑

**По меньшей мере 5 из 14 проверенных в Центральной избирательной комиссии объединений могут получить отказ в регистрации списков кандидатов в депутаты Государственной Думы из-за выявленных в представленных ими подписных листах нарушений.**

Такой отказ могут получить Российский общенародный союз (лидер Сергей Бабурин), Партия консолидации, блок "Новая Россия" (Тельман Гдлян), Национально-республиканская партия (Николай Лысенко) и Конституционно-демократическая партия (Михаил Астафьев).

❑

**10 ноября в Москве открывается 7-й раунд молдавско-российских переговоров о статусе, условиях и периоде вывода 14-й российской армии из Молдовы.**

Этот раунд продлится два дня.

❑

**Двое из 13 лидеров Независимого профсоюза горняков и рабочего движения Воркуты, начавших 1 ноября голодовку в связи с систематической задержкой выплаты зарплаты местным шахтерам, находятся в тяжелом состоянии.**

❑

**В декабре в республике начнет выходить научно-практический журнал "Финансы, учет, аудит".**

Новое издание призвано информировать о наиболее важных изменениях, происходящих в финансово-хозяйственной деятельности Беларуси.

### Реакция отторжения. Химзавода

**Экологическая комиссия Гомельского горисполкома после трехмесячной работы подвела итоги влияния производственной деятельности местного химического завода на окружающую среду.**

Оказалось, что в жилых микрорайонах, расположенных в непосредственной близости от завода, случаев заболеваний взрослого населения на 39 процентов больше, чем в среднем по городу. У детей — на 54 процента. Потери, которые наносит химзавод лесным угодьям, составляют ежегодно свыше 120 миллионов рублей. В воздух выбрасывается 90 процентов от общегородского показателя фторных соединений и азотной кислоты. Если завод не обеспечит экологически безопасное производство, горисполком будет рассматривать вопрос о его закрытии.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

### Пассажиры страдают. Транспортники — тоже

**На днях минские власти будут решать вопрос об увеличении стоимости проезда в общественном транспорте до 50 рублей.**

Как нам стало известно, убытки столичного бюджета из-за содержания транспорта за девять месяцев текущего года перевалили за 13 миллиардов рублей.

На сегодня пассажиры оплачивают не больше четвертой части стоимости проезда.

**Ирина СЕРЕГИНА.**

### Прогульщикам штрафы "шьют"

**На Мозырской швейной фабрике (ныне фирма "Нодекс") введена система штрафов внутреннего трудового распорядка.**

Тем, кто опоздал на работу, грозит штраф в 900 рублей. Прогул, а также появление в нетрезвом состоянии будет стоить виновнику 20 тысяч рублей.

**Анатолий ИВАНОВ.**

### Прощание славянки

**Не звучать больше военным маршам под сводами брестского Дома офицеров.**

Здание высвобождается в ходе внутриармейских реорганизаций и решением облисполкома передается на баланс управления культуры. Наиболее реальный кандидат на вселение — ютившаяся доселе в тесноте облфилармония.

**Василий САРЫЧЕВ.**

### Спорт-экспресс

Неудача постигла в розыгрыше Кубка европейских чемпионов по гандболу белорусские клубы. Минский СКА проиграл обе встречи "Усаму" (Ним, Франция) — 15:31 и 22:26, а гандболистки "Политехника" — "Лютцеллиндему" из Германии — 19:35 и 20:31.

❑

Минчанка Наталья Зверева проиграла в четвертьфинале женского теннисного турнира в Квебеке с призовым фондом 150 тысяч долларов канадской теннисистке Хелен Келеси — 1:3, 6:7 (5:7), 0:6.

❑

В первенстве МХЛ хоккеисты минского "Тивали" провели две встречи в гостях. Сначала они выиграли в Москве у ЦСКА — 2:1, а затем проиграли в Нижнем Новгороде местному "Торпедо" — 1:3.

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

*Сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Халодная восень. "Закіпеў" парламент...

**Павел СТАСЕВІЧ**

Палітыка і надвор'е, як вядома, — рэчы аднолькава пераменлівыя і непрадказальныя. І калі на вуліцы пахаладала, то ў парламенцкай зале з самага ранку стала горача.

Не дапамагло і ўступнае слова С.Шушкевіча, у якім ён выказаў надзею, што дэпутатаў на гэтую сесію прывяла трывога за стан спраў і лёс рэспублікі, а таму працаваць трэба спакойна і ўдумліва. Выклаў Старшыня Вярхоўнага Савета і прапанову па парадку дня сесіі, які папярэдне абмяркоўваўся на Прэзідыуме, — пачаць работу з разгляду праекта новай Канстытуцыі, бо стары Асноўны Закон не адпавядае патрабаванням часу.

У "бой" адразу пайшоў лідэр апазіцыі З.Пазьняк: выступленне С.Шушкевіча ён ацаніў як "агітацыйную прамову" і выклаў свой погляд на парадак дня — першымі і галоўнымі пунктамі павінны стаць адстаўка ўрада, стварэнне кааліцыйнага кабінета міністраў.

Пасля такой "запеўкі" на падрыхтаваны Прэзідыумам пералік пытанняў, якія выносяцца на сесію, пачалі актыўна наступаць і многія іншыя дэпутаты. Горача ўносіліся і новыя прапановы.

Што ж, такога пачатку можна было чакаць. У першапачатковым пераліку ледзь не сотня пытанняў, трэба неяк вызначыцца, што "баліць" найбольш, і не памыліцца. Па сутнасці, пытанне стаяла проста: пачаць з палітыкі ці з эканомікі?

— З эканомікі — гэтая думка пачала пастунова перамагаць. Аргументы такога падыходу, што называецца, ва ўсіх на вачах. Сацыяльна-эканамічны стан на Беларусі зараз такі, што іншы дыягназ, як "інфарктны стан", цяжка і паставіць. Асабліва тым, хто жыве на адну мінімальную зарплату, чый завод спыніў работу, каму даводзіцца берагчы кожнага "зайчыка". І такіх людзей, як вядома, у нас становіцца ўсё больш.

Пра крэдытна-фінансавыя справы і гаварыць не хочацца — беларускія "звяры" даўно склалі лапкі перад расійскім рублём і зусім палі ніц перад зялёным доларам.

Адным словам, ад былога знакамітага на ўсю СНД беларускага дабрабыту мала што і засталося. Так што дэпутат Г.Сямдзянава мела, думаю, рацыю, калі прапанавала тым калегам, хто не хоча асуджаць дзеянні ўрада, ухваліць іх...

Гумар. Але "чорны" — мільёнам беларусаў, што слухалі ў прамой трансляцыі парламенцкія "разборкі" першага дня сесіі, паўтаруся, не да смеху.

Разумела гэта, вядома, і большасць дэпутатаў. Таму нават на перапынак многія з іх не пайшлі. Адбылося трывожнае абмеркаванне стану спраў у стылі "бліц", на якім самым слушным і канкрэтным мне падалося выступленне В.Ганчара, сэнс якога — менш палітыкі, больш спраў, а то "за державу обидно".

"Обидно" было і іншым. Актыўна выступала апазіцыя і яе лідэр. Не думаю, што будзе спакойна спаць і прэм'ер В.Кебіч і некаторыя міністры пасля выступлення дэпутата С.Антончыка. Ён выклаў некаторыя вядомыя яму факты з жыцця ўладу маючых, якія, на думку С.Антончыка, паказваюць, што "наверсе" ў нас не ўсё "чыста"...

У эканоміку намаганнямі дэпутатаў-ветэранаў "вкрапывалась" і палітыка. Ад імя сваёй рэспубліканскай арганізацыі яны выказалі нязгоду з зацверджанымі нацыянальнымі сімваламі: сцягам, гербам.

Некалькі разоў успаміналася прэса, асабліва "Народная газета" і яе рэдактар, выслухаць справаздачу якога ў парламенце таксама ёсць жадаючыя.

Парламент, словам, "кіпеў" паўсялякаму. Па-мойму, гэта добра — хай лепш кіпіць парламент, чым па-сур'ёзнаму "закіпіць" вуліца і ўзмоцнена ахоўваемая плошча Незалежнасці.

А да апошняга засталося няшмат. Беларусы ж хочуць спакою, дабрабыту, упэўненасці ў заўтрашнім дні. Ці будзе ўсё гэта ў нас і калі — у многім залежыць менавіта ад рашэнняў сённяшняй сесіі.

Да канца дзённага пасяджэння дэпутаты "прарэджвалі" і зацвярджалі канчатковы спіс пытанняў і законапраектаў, якія выносяцца на разгляд.

❑

Пасля перапынку такая арганізацыйная работа прадоўжылася. Канчатковы ўзгоднены спіс будзе апублікаваны ў друку.

**Фота Сяргея ПЛЫТКЕВІЧА і Васіля ФЯДОСЕНКІ.**

*Коратка*

### Бізнес — справа сур'ёзная

**Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя па праблемах эканамічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва з замежнымі краінамі "Бізнесфорум-93" адкрылася 9 лістапада ў Мінску.**

У ёй прымаюць удзел кіруючыя работнікі і эксперты знешнеэканамічных міністэрстваў і ведамстваў шэрагу краін СНД, супрацоўнікі замежных пасольстваў у Беларусі, пасланцы банкаў і бізнесу, знешнегандлёвых арганізацый, буйных прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі, а таксама замежных фірм. Вялікую цікавасць да гэтага мерапрыемства праявілі і міжнародныя арганізацыі, прадстаўнікі ГАТТ, еўрапейскай эканамічнай камісіі ААН. Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця выступаюць тут з дакладамі.

Першы дзень работы канферэнцыі пачаўся з абмеркавання палітыкі і механізму садзейнічання экспарту, ролі міжнароднага эканамічнага супрацоўніцтва у пераходзе да рынaчнай эканомікі, шэрагу іншых тэм.

**Белінфарм.**



*Колонка Павла Якубовича*

### Кому выгодно мутить воду?

Беларусь, разумеется, обречена на теснейшие и всесторонние связи с Россией, но и России необходимы более чем дружественные отношения с нами. Что ж тут неясного? Однако демократические лидеры новой России будут иметь дела лишь с теми в Минске, кто не хромает ни на левую, ни на правую ногу и не смотрит на Москву, как на Мекку, где, кроме всего прочего, раздают бесплатные подарки в виде дармовых энергоносителей, кто способен, опираясь на конструктивную помощь, вывести Беларусь из глубочайшего и все более устрашающего кризиса. Политиков национал-радикального толка, а также министров-толкачей старой закалки В.Черномырдин и Е.Гайдар просят не беспокоиться!

Мне кажется, что подобные рассуждения должны занять самое серьезное место в дебатах начавшейся сессии Верховного Совета. Как бы ни были привлекательны лозунги "Долой!", они на сегодняшний день если и приведут к чему-то, то лишь к социальной напряженности внутри республики, и никакие споры о Конституции ровным счетом ничего не изменят. Совершенно ясно, что в правительстве должны появиться люди, во-первых, ясно понимающие, что такое настоящие, а не кабинетные реформы, во-вторых, пользующиеся доверием и уважением в Москве. Увы, такая, возможно, и обидная кое для кого, формулировка — единственный рецепт для начала интенсивной терапии нашего больного и весьма запущенного экономического организма. И вот здесь я ставлю многоточие, потому что столкнулся с фактом, который поверг меня в изумление. Узнав из сообщений Белорусского радио о том, что премьер-министр В.Кебич предложил известному политику, доктору технических наук Г.Карпенко занять должность заместителя Председателя Совмина "по экономическим реформам", я увидел в этом жесте серьезный и наконец-то решительный шаг в направлении настоящего реформирования правительства, привлечения к руководству новых, компетентных и энергичных руководителей.

Да, **такая** должность в **такое** время — не синекура. Она предполагает, кроме всего прочего, и смелость, ведь совершенно понятно, что углубляющийся кризис и гиперинфляция могут и безо всякого нажима "радикалов" поставить крест на правительстве. Поэтому связывать политическую судьбу с командой, которой вот-вот впору подавать сигнал "SOS", может лишь человек, руководствующийся не конъюнктурными, а серьезными государственными интересами. Мне показалось, что Верховный Совет должен будет по достоинству оценить этот шаг В.Кебича и найти легитимные возможности для того, чтобы обеспечить его будущему заместителю по проведению реформ зеленый свет. В том числе и по таким деликатным вопросам, как кадровые, организационные и т.д. Как мне кажется, появление в высшем эшелоне власти такого человека, как Г.Карпенко, вселило бы надежды и в тех, кто сегодня конструирует московскую политику по отношениям со странами СНГ.

И вдруг — вчера читаю в газетах, что все это было лишь "сенсацией". Оказывается, не было никакого "предложения", никакого "разговора" — вообще ничего не было. Мистика какая-то! Так что же, вместо реформ опять политиканство, вместо действий — хитромудрые разговоры, а вместо появления в правительстве новых лиц — тасовка довольно-таки засаленной номенклатурной колоды?

В перерыве между заседаниями сессии я подошел к Вячеславу Францевичу и попросил его ответить всего лишь на один вопрос: "Было ли в действительности предложение Г.Карпенко?" Премьер-министр ответил лаконично и недвусмысленно: "Было". "Что же теперь?" — спросил я. "Мы условились с Геннадием Дмитриевичем, что он взвесит все обстоятельства, подготовит предложения и свои аргументы, а потом мы встретимся и окончательно решим этот вопрос". Примерно также прокомментировал ситуацию и Г.Карпенко, который, как мне показалось, был чрезвычайно удивлен необъяснимой выходкой тех, кто инспирировал всю эту достаточно грубую историю.

Итак, премьер говорит одно, некоторые газеты, с подачи определенных лиц, утверждают другое, но что же будет на самом деле? Упования на вчерашний день, стенания о былом величии либо серьезная работа над завтрашним днем, который, как известно, начинается уже сегодня?

